# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 23 (1215) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 10 ЧЭРВЕНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



**Па роднай зямлі.** Па дарозе ў Саколку. Фота В. Рудчыка.

Пад „Залатой вехай“

# Быццам плюнуць...

Бацька глядзіць на сына, а сын на бацьку. Бацька — **Мікалай Лазавік,** нібы звычайны селянін, які ўжо пражыў на гэтым свеце амаль 60 гадоў і можа пахваліцца толькі багатым жыццёвым вопытам. А сын — **Павел Лазавік,** о, гэта зусім ужо іншая справа: ён і н ж ы н е р! Прайшоў грунтоўную тэарэтычную падрыхтоўку ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасці.

І так стаяць яны насупраць сябе, спы-

— Хто не баіцца развжліва рызыкаваць, хто хоча бачыць эфект сваёй працы, — гаворыць старэйшы з Лазавікоў, — хто любіць зямлю, — дабаўляе яшчэ пасля кароткага роздуму, — **таму яна адплоціць усялякім дабром.**

Самастойна пачаў ён гаспадарыць, як толькі ажаніўся — у 1948 годзе. Гаспадарка была вялікая, звыш 18 гектараў (а цяпер **у яго 30 га поля**), што ў той час не аблягчала яму жыцця.

— Трымаў я каня, дзве каровы, крыху авечак і некалькі свіней...

— Цяжка было, — дабаўляе яго жонка Марыя. — Цяпер, што цяпер! — кажа яна. — Нават дроў у хату не трэба насіць. Вернешся з поля, бзык запалкай — і газ ужо гарыць! Націснуў кнопку пральнага аўтамата і, пакуль бульба зварыцца, усялякія шматкі ўжо чыстыя, амаль сухія, хопіць толькі развесіць, каб ветрам прадула...

Павел Лазавік, а дакладней — **інжынер Павел Лазавік,** найперш марыў будаваць паўнаводныя марскія судны. Пасля заканчэння Бельскага беларускага ліцэя паспяхова прайшоў уступныя экзамены ў Гданьскай палітэхніцы і нейкі час вучыўся там.

— З навукай я не меў клопатаў, — гаворыць ён. — Але пасля так склалася, што я вымушаны быў пакінуць гэтую вышэйшую навучальную ўстанову.

Павел Лазавік астаўся дома, працаваў разам з бацькам, ажаніўся і, завочніліся ў прасторнай кухні двухпавярховага жылога дома — першага такога прасторнага і багатага ў вёсцы **Сакі** за Бельскам, ды спрачаюцца, дзе лепш жыць: у горадзе, ці ў вёсцы?

— Дурныя тыя, што цяпер уцякаюць з вёскі! — рашуча заяўляе бацька. — Такі вясковы рабочы з пачатковай адукацыяй, для прыкладу, як я, ну колькі ён можа ў месце зарабіць? Хай **чатыры** тысячы злотых у месяц, значыць, у год мае ён не больш як 50 тысяч злотых. То ж гэта чысты смех. **50 тысяч злотых зарабіць цяпер на гаспадарцы — то як плюнуць.** Пасадзіў, для прыкладу, вясной кавалак бульбы, восенню пусціў камбайн, каб сабраў, — і ўжо маеш свае 50 тысяч. У мінулым годзе я за адну бульбу ўзяў 160 тысяч злотых.

— Так, згода, — памяркоўна адгукаецца сын, — але бульба — гэта не крапіва, што сама расце ў агародзе...

Прыслухоўваўся я да гэтай сялянскай сямейнай добразычлівай спрэчкі і не мог вызваліцца ад назойлівай думкі: добра ўсхваляць старому гаспадару вясковае шчасце, калі на **яго банкавы рахунак у 1977 годзе ўплыло звыш 700 тысяч злотых, а праз год — на 200 тысяч больш, значыць — 900.**

Так, тут я не памыляюся, ды і яны, значыць сакоўскія Лазавікі, бацька і сын, самі гавораць, што цяпер варочаюць яны **сотнямі тысяч,** што ў гэтым годзе спадзяюцца дабіцца м і л ь ё н а.

*Працяг на стар.4*



*Наймалодшая з сям'і сакоўскіх Лазавікоў, Ірэна, яшчэ вучаніца VI класа пачатковай школы ў Пасынках.*

Людское жыццё як праезд — сядаеш на адным прыпынку і сыходзіш, даехаўшы да мэты, забіраючы з сабой усе ўражанні з падарожжа. Білет страціў сапраўднасць. Застаецца толькі ўспаміи, які па-свойму павязуць з сабой тыя, што едуць далей. Але часамі здарыцца такое, што, выскачыўшы на хвілінку, не заўважыш, як ад'ехаў цягнік, забіраючы ўвесь твой багаж і тое, да чаго ты паспеў ужо прывыкнуць. Трэба даганяць. Нанава прывыкаць і да купэ і да спадарожнікаў. Такое здарылася з ім, Мікалаем Пракапюком.

Вобмацкам пашукаў працягнутую руку і з радасцю моцна пацісну ў.

— Калі ласка, заходзьце, пойдзем у хату. Тут недзе павінна быць брамка, — пашукаў, стукаючы кійком па плоце.

Сабака, пачуўшы чужога на панадворку, заліўся брэхам, але ўбачыўшы разам гаспадара, замоўк, зразумеўшы, што дому нічога не паграджае. А гаспадар, абапіраючыся моцна на свой кіёккулю, напомніўшы, каб асцярожна, бо высокая лесвіца, павёў праз вялікія цёмныя сені ў кухню.

— Я зараз, зараз, пасядзіце хвілінку. Жонкі няма, з дачкою паехалі, дык можа і не так прыбрана, — і схаваўся ў пакоі, адкуль неўзабаве паявіўся з гармонікам.

— Гэта мой неразлучны сябра, — паясніў з нейкай радасцю ў голасе.

Мікалай Пракапюк нарадзіўся ў 1918 годзе ў Сібіры. Бацькі былі ў бежанцах. Атрымаўшы паведамленне, што загінуў брат бацькі і гаспадарка пустуе, вярнуліся на бацькаўшчыну, у Трывежу. У 1939 годзе прызвалі Мікалая ў армію на артылерыйскія курсы ўдасканальвання камандзірскага састава ў Лугу. Быў радыётэлеграфістам. Захварэў на туберкулёз суставаў, што было прычынай дэмабілізацыі.

Дома заняўся гаспадаркай. Была вайна — страшныя і цяжкія часы для людзей. І наступіў трагічны для М. Пракапюка 1944 год. Пайшоў яму ўсяго толькі 25 год. Пасля нядаўняй артылерыйскай перастрэлкі навокал валялася поўна пустых гільзаў.

— Было цяжка. У хаце не было нават кубка. І вось мне бацька сказаў: „Пайдзі, прынясі гільзаў, то кружак наробім“. І што мяне тады падкусіла? Збіраючы гільзы, трапіў я на снарад.

# Чалавечы лёс

Калі нёс яго дамоў, снарад узарваўся, узарваўся проста ў руках. Далей нічога не памятаю.

Акрываўленага і абгарэлага, з параненымі вачыма і пакалечанай правай рукой завезлі ў бальніцу ў Гайнаўку, дзе праляжаў тры месяцы. Крыху падлячылі, але зроку выратаваць не змаглі. Рука таксама дрэнна зраслася. Трэба было ламаць, але і гэта не дапамагло, засталася крывая і амаль непаслухмяная.

Левае вока, як потым выявілася, можна яшчэ было выратаваць, але была вайна, не было лекаў, бальніцы перапоўнены. Потым спрабавалі вярнуць свет у бальніцы ў Любліне. І ўжо нават паявілася надзея, пачаў адрозніваць плямы святла, але нерв быў замоцна аслаблены і зноў настала цемра. Вельмі цяжкія першыя два-тры гады. Для слабых гэта трагедыя. Трэба ж нанава вучыцца жыць. Хто не бачыў з роду, дык не ведае, як цвіце сад, як калосіцца жыта, але таму, хто гэта бачыў і раптам усё абарвалася, наступіла ноч...

На хвіліну задумаўся і раптам расцягнуў свой гармонік. У пералівістыя акорды музыкі ўліўся моцны і чысты мужчынскі голас. Хату запоўніла песня, песня ад душы, шчырая. Спявае і, здаецца, усё бачыць, бачыць, як некалі, сад, і поле, і кароў, вяртаючыхся надвячоркам з папасу.

Мусіў нанава да ўсяго прывыкаць — пазнаваць свой дом, панадворак, поле, вуліцу. Усімі сіламі стараўся быць паўнавартасным, каб не быць завалай для бацькоў, каб перамагчы хвілінныя хістанні сваёй слабасці, выпрацаваць новую, куды мацнейшую сілу волі. Працаваў на гаспадарцы, вывозіў гной, араў, сеяў. У 1962 годзе памерлі бацькі. Застаўся адзін.

— Яна прыйшла да мяне, як нейкае збавенне, — гаворыць пра жонку. — Што тут гаварыць, нават калі і здаро-

(Працяг на стар. 4)

 

## СЯЛЯНЕ ЗДАБЫВАЮЦЬ ВЕДЫ

Нягледзячы на пастаянны прагрэс, у далейшым 40% працуючых на гаспадарцы не мае закончанай пачатковай школы. Хаця зроблены вялікія намаганні, у далейшым толькі трэцяя частка маладых людзей, пачынаючых працу на гаспадарцы мае прафесіянальную падрыхтоўку на ўзроўні засадні́чым і сярэднім.

Таму вялікае значэнне мае павышэнне прафесіянальных кваліфікацый сялян і работнікаў сельскай гаспадаркі. Так як у мінулым годзе, найбольшая ўвага была звернута на курсы, на якіх сяляне будуць рыхтавацца да экзаменаў на кваліфікацыйныя званні: гадоўца быдла, гадоўца свіней, гадоўца авечак, агароднік, садавод і іншыя. Апрача таго, вялікім поспехам карыстаецца ўсеагульнае сельскагаспадарчае абучэнне. Тэматыка заняткаў адпавядае патрабаванням сучаснага гаспадарання. Выкладчыкі гэта, між іншым, работнікі гміннай сельскагаспадарчай службы і лекары ветэрынарыі.

Зараз усе хочуць гаспадарыць па-сучаснаму і эфектыўна. Маладыя наследнікі хочуць працаваць з большай карысцю. Усё гэта магчымае толькі пры іншым, чым традыцыйны, спосабе гаспадарання. Да гэтага патрэбны веды... Зараз на Беласточчыне найбольш сялян павышае веды ў галіне жывёлагадоўлі і раслінаводства. Спецыялістычнае абучэнне праходзіць 10900 сялян. Найбольш асоб атрымлівае веды па вырошчванню караняплодаў (3000 чалавек), валакністых раслін і рапсу (рапаку) — 2400 асоб, табаку (1500 асоб), па гадоўлі пчол (1500 асоб), свіней (1300 асоб), коней (700 асоб), авечак (460 асоб). На курсы для трактарыстаў ходзіць каля 300 асоб. Найбольш іх арганізавалі спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. Беластоцкае насеннае прадпрыемства „Насенная цэнтраля“ вядзе абучэнне плантатараў у 190 вёсках для 2874 асобы (у мінулым годзе вяла яна 151 курс). Яно зацікаўлена падрыхтоўкай сялян, якія займаюцца вырошчваннем насеннай бульбы, траў і струковых раслін. **(яц)**

## ЗАЛАТЫЯ І СЯРЭБРАНЫЯ ВЯСЕЛЛІ

У ЗАГСе ў Міхалове адбылася мілая ўрачыстасць, на якой былі ўручаны медалі „За доўгае сямейнае сужыццё“ дзевяці парам: Любе і Баляславу Харашухам, Серафіме і Васілю Назаркам і Марыі і Юльяну Ваўрэнюку — усе з Міхалова, Анне і Пятру Верамеюкам з Масціскаў, Стэфаніі і Антону Зубрэвічу, Зофіі і Міхалу Ціванюку і Марыі і Міхалу Салаўям — усе з Ялоўкі, Юліі і Яну Грыгаровічам з Бяндзюгі і Параскеве і Міхалу Харылам з Жэдні.

Былі тосты, пажаданні і кветкі. На ўрачыстасці прысутнічалі сем'і ўзнагароджаных.

Шаноўным юбілярам жадаем дажыць у добрым здароўі сама менш да ста гадоў. **(яц)**

УСПАМІНЫ (23)




### „КОБРА“

Традыцыйна ўжо Ваяводскі дом культуры ў Беластоку запрасіў нас на „Конкурс фальклорнага мастацтва“. Праходзіў ён 14 і 15 сакавіка ў Кольне. Мы ўдзельнічалі ў другім дні. Камісія праслухала 6 песень і высока ацаніла нас. Удзельнікаў было вельмі многа, звыш 200 асоб, 45 нумароў. Высокія ўзнагароды былі прызнаны толькі двум калектывам. Адным з іх былі мы. 15 сакавіка адбыўся ўрачысты канцэрт. Зала перапоўнена. Публіка заняла нават усе праходы. Новая для нас публіка — новыя хваляванні. Як успрыме нашы песні? Успрыняла вельмі цёпла, проста энтузіястычна. Любім такія хвіліны. У Кольна выязджалі: Н. Цыванюк, І. Паўлючук, Р. Дылько, А. Захарчук, І. Налівайка, І. Цеханоўская, М. Пятэльская, М. Траскоўская, О. Нядзведзева, Н. Парэмбская і я. Можна сказаць, мы нявольніцы, адданыя песні. Змучаныя, але задаволеныя вярнуліся дамоў.

У гэтым годзе ўдалося сабраць драматычную групу. Вырашыла паставіць „Міхалку“. Праўда, на чатыры дзеючыя асобы, выступае там двое мужчын, але Язэпа лёгка ўдалося перапрацаваць на Альжбету. Склад групы быў шматабяцаючы і дысцыплінаваны. Уваходзілі ў яе: Славак Самойлік, Наталля Савіцкая, Надзя Парэмбская, я, суфлёр Тамара Бурачэўская.

Прынялі ўдзел у аглядзе драматычных гурткоў БГКТ. Адборачны агляд адбыўся ў Гарадку. Не паведамілі нам, з якім вынікам мы выступілі, прыйшло толькі паведамленне, што 16 сакавіка адбудзецца цэнтральны агляд у Бельску. Паехалі. Выступала 5 драмгурткоў. Мы занялі другое месца.

Трэба падкрэсліць, што на аглядзе гэтым было вельмі мала публікі. Відаць, арганізатары мала папрацавалі над прапагандаваннем мерапрыемства. Я асабіста балюча адчула гэта. Не люблю іграць перад пустымі крэсламі.

Ёсць шуфляды, якіх не адкрываю. Дзённік, у якім запісваю поспехі і няўдачы калектыву (і свае асабістыя) дазваляе цяпер адкрыць шуфляду, у якой замкнула самае страшнае з усёй маёй дзейнасці. Я ўжо ўспамінала, што былі ў нас урачыстасці, на якіх мы спявалі прыпеўкі, адрасаваныя гаспадарам Гарадка. Калі былі створаны гмінныя ўстановы, першым начальнікам Гарадоцкай гміны быў мой сусед Я. М. Адносіны з ім, як і з яго сям'ёй, былі, бадай, добрыя, як патрабавала гэтага блізкае суседства. Жыву адна. Была ў мяне тады кватарантка, працавала на трыкатажнай фабрыцы. Фабрыка двухзменная, Геня працавала на першай змене, а 15 гадзіне была ўжо дома. Было 2 красавіка (амаль prima aprilis). Гадзіна 16.30. У сувязі з падрыхтоўкай да ўступнай пробы першамайскага канцэрта, якая мелася адбыцца 7 красавіка, прыйшла па тэксты песняў Н. Цыванюк. Мой сусед-начальнік быў у дрызіну п'яны. Вяртаўся, відаць, дамоў. Нейкім чынам трапіў да мяне. Каб не кватарантка Г. Лук'янюк і Н. Цыванюк, гаворачы аб Мушынскай, трэба было б цяпер дадаваць: добрай памяці. Паміж намі, трыма жанчынамі і начальнікам, разыгралася сапраўдная „Кобра“.

Я была ўпэўнена, што сусед, калі выцверазее, прыдзе і папросіць прабачэння. Начальніцкая гордасць падказала іншую развязку: справу накіраваў... у суд.

Вінаваты быў пакараны. Я дайшла да вываду, што суд гэта не сцэна, а судовая справа — не фальклор.

Інцыдэнт каштаваў мне многа здароўя, прапала беззваротна. Вось табе і частушкі!



*Сцэна з „Міхалкі“.*

ліся поўнасцю зламаць чалавека. У 1975 годзе згарэла стадола.

— Можа думаеце, што я сам, праз няўвагу. Не, я не куру і не нашу з сабой запалак, — тлумачыцца. — Загарэлася, шэсць тады ў вёсцы згарэла. Трэба было будаваць.

Будаваў сам. Не то што не было майстроў, ці чым ім заплаціць. Не, хацеў паказаць, што ён можа, што страта зроку не зрабіла яго бязрадным, зданым на ласку другіх. Разабраў шпіхерык ды камору. Параскладаў дылі па ўсім панадворку, каб потым ведаць як па чарзе іх браць.

— А як хлявок крыў азбеставай чарапіцай, то ўсе гаварылі: „Дзе ён пакрые, гэта ж лінію трэба захаваць!“ То гляньце, — паказвае.

І сапраўды, усё роўненька, як пад шнур. Жонка дапамагла толькі латы прыбіць. М. Пракапюк чалавек працавіты і здольны. Каб так здароўе, як у іншых, і школу, хто ведае, кім мог бы быць.

— О гэта ўсё маёй работы, усё з маёй задумы, — паказвае крайзэгу, спалучаную з сячкарняй. — Пераключыў адпаведна матор — сечку рэж, інакш падключыў — дровы. І вяртарку электрычную зрабіў, і машыну для вырабу шчотак. І абгарадзіўся сам і жалезную агароджу на ўсходы паставіў. Магу і хаты плітой выбіваць, і сталярку зрабіць, сеці на рыбу плёў.

Жыццё аднак патрабавала нейкай прафесіі. У 1967 годзе закончыў курсы невідучых у Быдгашчы, дзе здабыў прафесію мантажніка металу. Адначасова закончыў там сёмы клас. Гляджу на пасведчанне — адны пяцёркі. Усё гэта здабыў за адзін год: і прысвоіў новы алфавіт, і прафесію, і веды для заканчэння пачатковай школы. У тым жа годзе, уступіўшы ў кааператыў невідучых, пачаў рабіць жабкі для фіранак на вокны. Так працаваў дзесяць год, да 1977 года. Зараз на рэнце. Зямлі таксама ўжо не маюць.

— Конь, дзве авечкі, два каты і сабака, — гэта мая цэлая гаспадарка, — гаворыць. — Я шчаслівы, прывык ужо бачыць па-другому, адчуваць колеры дотыкам і душою. Былі хвіліны цяжкія, ой, цяжкія, але ратаваў мяне гармонік, — і расцягнуў мяхі.

— Але вы прыедзьце, як расцвітуць сады. У нас тут прыгожа, усё як малаком аблітае, пчолы жужжаць і такі водар... Вось сядзем тады пад яблыняй, абяцайце, што прыедзеце, прыедзьце, — і, правёўшы за брамку, „углядаўся“ у гул матора. Машына павярнула і скрылася за вёскай.

**М. Шаховіч**
Фота аўтара

ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЕННЯЯ

Moderato

*Памажэце, хлопцы, нам веночак звіці,*
*над дунаем горад гарадзіці —*
*горад гарадзіці,*
*коб не выляцела раба парапёлка,*
*коб ні вынасіла хлапцоўскае красы,*
*а хлапцоўска краса — канчук кала паса,*
*а хлапцоўска краса — канчук кала паса.*
*Памажэце, хлопцы, нам веночак звіці,*
*нам веночак звіці —*
*горад гарадзіці,*
*коб ні выляцела сівая зазуля,*
*коб ні выносіла дзевоцкае красы,*
*бо дзевоцка краса — коса да паяса,*
*бо дзевоцка краса — коса да паяса.*

Ад Марыі Янюк, 1908 года нараджэння, мястэчка Нараўка, запісаў 24 студзеня 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.




### ЮБІЛЕЙНАЕ

Ад адкрыцця маёй палоскі (1.VI.1978) прайшоў год часу. Час гэты паказаў неабыякавыя адносіны чытачоў да ўзнятай мною справы. Аднадумцам шчыра дзякую, што падтрымалі на духу, праціўнікам — дзякуй за ўсведамленне вартасці маёй крытыкі.

В. Станулевіч з Ольштына, прадстаўляючыся, падкрэсліў, што ён ні паэт, ні літаратуразнавец. Аказаўся маім прататыпам. І яго тэзіс, што цяперашняя паэзія не такая ўжо „цяперашняя“ — згодны з маім. І што ён не думаў умешвацца ў справы паэзіі (Мае думкі! Кропля ў кроплю), але ўмяшаўся, бо ён неабыякавы да свайго роднага (як і я, дальбо). І разумна зрабіў. На яго думку, мая крытыка завострая: маладыя паэты могуць адчуваць жаль да мяне: яшчэ не паспелі, як трэба, узняцца ў палёт, як я пачаў ім падразаць крылы. Жаль, бачыш ты. А з чаго ж, як не з жалю, узяўся я за слушную крытыку. Не таго, „цяперашняга ўсяго“, чакалі мы ад нашых сынкоў. Якуб Колас таксама наказваў свайму Сымонку: „Слухай старога“. Легендарны Ікар не паслухаўся бацькі свайго — і што? Пагібель без часу, без пары. Мо крытыка (вострая) старога дзядзькі Кваса ўстрымае якога юнака ад небяспечнага напрамку. І магчыма, што тыя, што сёння адчуваюць жаль да мяне, у будучыні будуць мне ўдзячны.

В. Станулевіч згаджаецца, што цяперашняя паэзія незразумелая шырокім масам, але, цвердзіць ён, гэта не значыць, што яна бязвартасная, непатрэбная, бо, маўляў, не ўсе ж разумеюць шахматную гульню або чарцёжныя планы, але ніхто не кажа, што шахматы і чарцяжы непатрэбныя. Да таго ў цяперашняй паэзіі Станулевіч адзначыў прыгажосць у разнавіднасці і прыйшоў да вываду, што хто любіць гуляць у шахматы, хай гуляе, хто любіць займацца паэзіяй, хай займаецца. Нічога ў гэтым няма дрэннага, нават наадварот — наша паэзія нічога не траціць, а толькі ўзбагачаецца. Уфф Выявілася, што мы ягадкі не з аднаго поля. Параўнаць мудрагелістыя шахматы з галюцынацыйнай паэзіяй! Творца іх пачаў з незразумелага чарцяжу, а давёў да заканамернасці, да мата.

Ці нашы паэты, беручыся за твор, пачынаюць ад чарцёжных планаў? Не ведаю. Не давялося мне дагэтуль бачыць жывога паэта, ведаю іх толькі з партрэтаў у „Ніве“. Не абмяняўся я з імі жывым словам, не даведаўся ад іх сакрэтаў і прычын нашай народнай незразумеласці. Не давялося і, як відаць, не давядзецца ніколі. І таму трэба здагадвацца. Думаю, што некаторыя аднак чэрцяць планы і тут жа высылаюць у друк. Напісаў абы-як — добра і так. А што чытачу незразумелы — столькі і бяды. Сам творца, каб давялося, не расшыфраваў бы сваю пісаніну.

Адносна творцаў, якія дабіліся ўжо папулярнасці. Гэтыя перадавікі не турбуюць сябе нейкімі там чарцяжамі, прымяняюць яны самы просты спосаб. Перад сном градушчым спажываюць салідную вячэру. Як скура на пузе нацягнецца, лягаюць спаць. Ад перасілення працы жалудка і вантробы прыходзіць у скокі-пераскокі ўся нервовая сістэма, ліхаманкава працуе розум і стварае самыя фантастычныя прывіды. Абудзіўшыся, макруткі ад поту, творца хапаецца за пяро і строчыць на свежую памяць насніўшаеся за ноч. Дзе ж там, у гэтакім поспеху да класікі! К чорту граматыку! Абы хутчэй! А што забылася і не вяжацца — шматкроп'е. Хай там чытач разбіраецца, як хоча. Дурні ж не чытаюць высокатворчасці, а высокаадукаванец пасаромеецца й падумаць, што ён там нешта не зразумеў. Вось гэты стыль і вабіць маладых у паэтычны свет. Таму і растуць у нас паэты. Як піць даць, у васьмідзесятых гадах дасягаем паўтысячы паэтагалоў. А пад канец стагоддзя кожная галава на карку будзе статыстычнай галавой паэта.

Жаданні Станулевіча з Ольштына здзейсняцца поўнасцю на ўцеху нам, беларусам, пражываючым у Польшчы, а на зайздрасць народам свету. А ўзбагачаная „цяперашняй плынню“ наша літаратура (хто ж яго ведае) ці выйдзе ў літаратуру, ці ў макулатуру, барані і ахоўвай Божа.

**Дзядзька Квас**



 

